Cena 60 gr. Цана 60 гр.

NIWA
Organ Z.G Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

# Ніва

Орган
Г П Беларускага
грамадска культурнага таварыства

№ 1 (149) БЕЛАСТОК, 4 СТУДЗЕНЯ 1959 года ГОД IV

## 1959

Вось і выплыў на небасхіле падзей 1959 год. Для беларусаў, ужо на самым пачатку, аб'явіў ён вялікае свята — 40-вую гадавіну Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — першай у гісторыі беларускага народу, беларускай дзяржавы.

40 год у гісторыі гэта невялікі адрэзак часу. Але гэтыя ж сорак год у жыцці беларускага народу адыгралі незвычайную ролю. Прыгнечаны, забіты, вечна паднявольны народ, як той бессмяротны купалаўскі Лявон, зварухнуўся

*Як вада, як агонь,*
*Пазнаў сілу ў сабе чебывалую...*

І гэты народ, якога адвечнай марай было жаданне людзьмі звацца, у выніку Кастрычніцкай Рэвалюцыі стаў гаспадаром сваёй зямлі і заняў пачэсны пасад між народамі.

Заваёвы беларускага народу, дасягненні БССР на працягу свайго 40-га існавання, шчыра радуюць сэрца кожнага беларуса.

І таму мы падымаючы першую навагоднюю чарку, ад усёй душы, жадаем далейшых поспехаў нашым савецкім братам.

Сустракаючь 1959 год нельга не адзначыць падзей, якія разгортваюцца ў нашай краіне. XII пленум нашай партыі накрэсліла перад народам план далейшага развіцця будаўніцтва сацыялізма ў Народнай Польшчы. План гэты адкрывае новыя перспектывы развіцця нашай народнай дзяржавы, з ім партыя ідзе да свайго III-га з'езду, заклікаючы народ на сацыялістычнае спаборніцтва.

Таму мы павінны яшчэ больш згуртавацца вакол нашай партыі і далажыць усіх намаганняў, каб у вялікім сацыялістычным паходзе крочыць і надалей у першым шарэнгу.

Гэта нашае ганаровае заданне і мы яго з гонарам выканаем.

Таму другую чарку падымем за нашу партыю, за арганізатара і натхніцеля нашых перамог.

Сонечным сакавіковым днём 1956 года выйшаў у свет першы нумар «Нівы». Як жа аб гэтым не ўспомніць цяпер, калі за два месяцы скончым 3 гады свайго клапатлівага жыцця і пойдзе нам чацвёрты год. У сваёй працы, нягледзячы на рознага роду недахопы, спадзяемся, што зрабілі мы шмат добрага. Хоць гэта не круглы юбілей і не лірычныя адступленні за рана, аднак нельга не адзначыць, што на працягу гэтых год. мы заўсёды адчувалі падтрымку нашых чытачоў. На гэтую падтрымку лічым і ў далейшым.

Таму трэцюю чарку вып'ем за Вас, дарагія чытачы, за нашы сувязі, за змястоўныя і цікавыя лісты, і як казаў наш Колас, за тое,

*Каб у хляве ды ўсё пладзілась*
*Каб жыта ў полі каласілась,*
*Няхай раяцца добра пчолы*
*І самі будзем мы вясёлы.*

**З выпадку Новага года усім нашым актывістам, членам і сімпатыкам жадаем поспехаў у грамадскай дзейнасці і шчасця ў асабістым жыцці.**

Галоўнае Праўленне
Беларускага грамадска- культурнага
таварыства.

З выпадку Калял і Новага года шлем нашым чытачам сардэчныя пажаданні.
РЭДАКЦЫЯ

## Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай Партыі Беларусі
## Ураду Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

*Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства сардэчна вітае знамянальную падзею ў гісторыі беларускага народа 40-ую гадавіну Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Камуністычнай партыі Беларусі.*

*Вялікі шлях, па якім прайшла першая ў гісторыі беларуская дзяржава, сведчыць аб правільнай ленінскай нацыянальнай палітыцы, якая з'яўляецца галоўным звяном, яднаючым народы вялікага Савецкага Саюза, якая знаходзіць прымяненне і ў краінах народнай дэмакратыі, у тым ліку і ў нашай краіне.*

*Велізарныя поспехі беларускага народа, які пад кіраўніцтвам сваёй роднай Камуністычнай партыі будуе камунізм, бязмежна радуюць нас і натхняюць.*

*Беларусы — жыхары Польскай Народнай Рэспублікі — з пачуццём вялікай нацыянальнай гордасці адзначаюць слаўны юбілей беларускага народа.*

*Мы прыложым усе намаганні ў справе распаўсюджвання дасягненняў Савецкай Беларусі, ва ўмацаванні дружбы паміж польскім і беларускім народамі.*

*Прыміце ад нас гарачыя пажаданні далейшых поспехаў у развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры Беларускай рэспублікі.*

*Беласток.*

*Галоўнае Праўленне*
*Беларускага грамадска -*
*культурнага таварыства.*

## Галоўнаму Праўленню Беларускага грамадска-культурнага таварыства

*БЕЛАСТОК*

*Дарагія Сябры!*

*Беларускае Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі горача віншуе членаў Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства з Новым годам і жадае далейшых поспехаў у плённай працы па ўмацаванню непарушнай дружбы народаў Польшчы і Савецкага Саюза.*

*Старшыня Прэзідыума*
*І. К. КАЗЛОЎ*

## Беларускаму Таварыству дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі

*МІНСК*

*Дарагія Сябры!*

*Сардэчна віншуем Вас з знамянальным юбілеем беларускай дзяржавы. З гэтага выпадку жадаем Вам вялікіх поспехаў у далейшым умацоўванні дружбы і сувязей з зарубежнымі краінамі.*

*Галоўнае Праўленне*
*Беларускага грамадска - культурнага*
*таварыства*
*Беласток.*



*19.XII.1958 г. у салоне «Захэнта» адкрылася выстаўка скульптуры Варшаўскай акругі Саюза Польскіх Артыстаў Пластыкаў пад загалоўкам «Варшаўская скульптура 1945 - 1958 г.». Гэтая выстаўка з'яўляецца падсумаваннем дасягненняў варшаўскіх скульптараў. Між іншым на выстаўцы паказана праца Міколы Валкавыцкага ўраджэнца Белавежы.*
*На здымку: «Велагоншчыкі» (з выстаўкі салона «Захэнта»). М. Валкавыцкага*





*Польска-беларускія сувязі маюць вялікую традыцыю. Яны з кожным годам умацоўваюцца і пашыраюцца. На здымку: гутарка ў час візіту дэлегацыі ПНР першаму сакратару ЦК КПБ К. Мазураву, старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. Казлову, старшыні Савета Міністраў БССР К. Аўхімовічу 1 кастрычніка 1958 г.*



*Лён — багацце Беларусі. Нездарма яго нясуць на Першамайскім парадзе юныя натуралісты — будучыя героі працы.*

# Дзяржаўны гімн Беларускай ССР

Словы М. Клімковіча — Музыка Н. Сакалоўскага




Мы — беларусы з братняю Руссю
Разам шукалі к шчасцю дарог.
У бітвах за волю, ў бітвах за долю
З ёй здабылі мы сцяг перамог!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, беларускі народ!

Сілы гартуе люд Беларусі
У братнім Саюзе ў мужнай сям'і.
Вечна мы будзем, вольныя людзі,
Жыць на шчаслівай, вольнай зямлі!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, наш свабодны народ!

Дружба народаў — сіла народаў.
К шчасцю працоўных сонечны шлях
Горда ж узвіся ў светлае высі,
Сцяг камунізма — радасці сцяг!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, наш Савецкі народ!



*Пяе Шырма. Гэты выдатны хор — сведчанне высокай культуры беларускага народа.*



*Калісьці Беларусь славілася балотамі. Яны знікаюць з паверхні зямлі пад нагутным наступам машын айчыннай прадукцыі, якімі кіруе новы беларускі селянін.*



*Універсальныя трактары «Беларусь» Мінскага трактарнага завода заваявалі шырокую славу ў Савецкім Саюзе і за яго межамі.*



*Цудоўны горад. Так гавораць аб сталіцы беларускай тыя, хто ў ёй быў. Мінск, цалкам знішчаны ў час вайны, вырас на папялішчах дзякуючы працавітасці беларускага народа і брацкай дапамозе іншых народаў савецкай краіны.*

